№2
(3743)

9 студзеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАЛІТКУХНЯ

## Віншавальная паштоўка АГП

*Вельмі незвычайна выклала асноўныя тэзісы сваёй палітычнай праграмы Аб'яднаная грамадзянская партыя. У віншавальнай паштоўцы.*
*Арыгінальна, весела і сур'ёзна адначасова.*
*Малайцы!*

А для тых, хто паштоўку не атрымаў, у сталічным офісе АГП адбылася прэс-канферэнцыя лідараў партыі Анатоля Лябедзькі, Людмілы Пецінай і Льва Марголіна, якія распавялі журналістам аб планах партыі на 2013 год.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька паведаміў, што асноўны накірунак дзейнасці партыі — работа з прыхільнікамі перамен пераважна у рэчышчы сацыяльна-эканамічных пытанняў. Па словах Анатоля Лябедзькі, павышэнне ўзроўню жыцця грамадзян немагчыма без мадэрнізацыі, і ў гэтым цяпер ужо практычна ніхто не сумняваецца.

У 2013 годзе работа партыі будзе накіравана на тое, каб праінфармаваць людзей, што перамены да лепшага магчымыя. У АГП ёсць праграмы мадэрнізацыі краіны, бачанне народнай прыватызацыі, якая будзе ажыццяўляцца ў інтарэсах усіх грамадзян Беларусі і будзе цесна злучана з пенсіённай рэформай. Гэта працяг нашай работы, распачатай пад лозунгам "Пабудуем новае, зберажом лепшае!", зазначыў лідар АГП.

Як вядома, Аб'яднаная грамадзянская партыя выступае не толькі за народную прыватызацыю, але і за прыярытэт правоў чалавека перад інтарэсамі дзяржавы, за адраджэнне культуры і мовы, за свабоду і незалежнасць Беларусі, за дабрабыт грамадзян, заснаваны на прыватнай уласнасці і эфектыўнай эканоміцы, за рэальную роўнасць усіх перад законам, за моцную сям'ю, за адкрытае грамадства.




КАДРЫ

## Ближе к телу

*Только во вторник 8 января выяснилось, какой же пост в структуре власти занимал бывший генеральный прокурор, бывший глава Администрации президента, бывший глава Совета безопасности Виктор Шейман.*

Фамилия Шеймана периодически появлялась в официальной хронике, особенно во время различных мероприятий в рамках белорусско-венесуэльского сотрудничества, однако кем конкретно работает Шейман после громкой отставки и кратковременной опалы, известно не было. И только 8 января точки над "і" были расставлены. Александр Лукашенко подписал указ, которым перевел Виктора Шеймана из статуса помощника по особым поручениям Совета безопасности в статус своих личных помощников.

Таким образом, помогать главе государства справиться с силовым блоком теперь будут в четыре руки — и старший сын Виктор Лукашенко, и бывший "серый кардинал" Виктор Шейман.

Одновременно с должности помощника президента в связи с переводом на другую работу уволен Валентин Рыбаков. Он отвечал за международный блок.

Не исключено, что Рыбаков вскоре объявится в Министерстве иностранных дел, где стала вакантной должность заместителя министра. Сергей Алейник, занимавший ее до вчерашнего дня, назначен Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Соединенном Королевстве Великобритании и Северной Ирландии, Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Ирландии по совместительству.

**Олег СНОВ.**



## Свабода ёсць найвялікшы дар

### З Каляднага паслання Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Філарэта

*Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт у сваім сёлетнім калядным пасланні адзначыў, што "сацыяльны статус не здымае адказнасці за прынятыя рашэнні, роўна як і адсутнасць статусу не апраўдвае нерашучасці і пасіўнасці перад тварам зла". "Цуд тварэння чалавека складаецца ў тым, што Бог дае нам магчымасць самім вызначыцца: жадаем мы ісці да богападабенства ці не". "Свабода ёсць найвялікшы дар, але і цяжар для тых, хто не гатовы зразумець яе як умову кахання", — гаворыцца ў пасланні.*

"Многія мудрацы спрабавалі аблегчыць чалавеку гэты страшны цяжар выбару, падказваючы і тлумачачы неабходнасць прытрымлівацца дабра. Але наша сэрца ведае: сапраўдны выбар заўсёды адбываецца ў адзіноце, і за нас яго не зробіць ніхто іншы. Сацыяльны статус не здымае адказнасці за прынятыя рашэнні, роўна як і адсутнасць статусу не апраўдвае нерашучасці і пасіўнасці перад абліччам зла.

У гэтым годзе ва ўсім свеце будзе адзначацца 1700-годдзе рашэння, якое сапраўды змяніла ходу гісторыі. У 313 годзе імператар Канстанцін выдаў знакаміты Міланскі эдыкт, за якім рушыла паступовае станаўленне хрысціянства ў якасці пануючай рэлігіі Рымскай імперыі. Гэтае рашэнне было прынята невыпадкова: яно ажыццявілася на фоне і пад уздзеяннем пэўных палітычных, эканамічных, грамадскіх абставін. Але Царква ўбачыла, што ўсе грані гэтага рашэння былі асвечаны асабістай вернасцю імператара Хрысту, і менавіта таму праславіла Канстанціна ў абліччы святых.

Гады ішлі, і разам з несумнеўнымі выгодамі, прынесенымі Царкве Міланскім эдыктам, стала відавочна, што ў асяроддзі хрысціян вера пачала паступова астываць. Хрысціянства выбіралі не толькі як шлях выратавання, але і ў знак лаяльнасці да ўлад, дзеля доступу да дзяржаўных прывілеяў.

Дарагія браты і сёстры! Кнігу гісторыі пішуць чалавечыя сэрцы. І тое, што адбывалася 1700 гадоў таму, адбываецца і ў нашы дні.

Дзякаваць Богу, у Беларусі добрыя адносіны паміж дзяржавай і Царквой. Мы развіваем супрацоўніцтва, маючы адносіны на мове маральных каштоўнасцяў. Але сёння важна памятаць, што хрысціянства мае справу не толькі з супольнасцю людзей: яно звернута да кожнага асабіста. Гасподзь чакае ад нас рашэння: ці ўпусцім мы Яго ў нашае сэрца альбо яно будзе занята клопатам гэтага веку? Ці ёсць у нас золата веры, ладан малітвы і смірна пакаяння (гл. Мац. 2:11), каб годна сустрэць Творцу?

На гэтыя пытанні кожны адказвае сам. Але сёння хочацца ўсіх заклікаць пакланіцца Хрысту, каб плады Ягонай любові адчуваліся ў кожным доме, у кожнай сям'і. Вось гэтыя плады: любоў, радасць, згода, доўгацярпенне, дабрыня, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрыманне (Гал. 5:22, 23).

Кожны чалавек хоча любіць і каб яго любілі. Хай жа гэтыя святыя дні Нараджэння Госпада ў плоці стануць для нас нагодай падзяліцца багаццем нашых душ з блізкімі. Хай Віфлеемская зорка пакажа кожнаму з нас шлях да сэрца нашых сваякоў і калег, нашых суседзяў, сяброў і ворагаў, бо там, у сэрцы, — Хрыстос Бог наш. Пакінем мінулыя горычы і крыўды і кіруймася ў будучыню. Бо з намі Бог, Яму належаць і час, і прастора. Дзе Дух Ягонай любові, там і дом наш", — гаворыцца ў пасланні Мітрапаліта Філарэта.

ГОЛАС НАРОДА

## Ці змогуць незалежныя прафсаюзы паўтарыць поспех польскай «Салідарнасці»?

***Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НСЭПД), які зарэгістраваны ў Вільнюсе, апублікаваў вынікі апошняга, снежаньскага, нацыянальнага апытання.***

Сярод шэрагу пытанняў адно тычылася рэйтынгу даверу насельніцтва чыноўнікам. У рэспандэнтаў пацікавіліся, з якім з меркаванняў аб беларускіх чыноўніках яны згодныя:

**— чыноўнікі рэальна дапамагаюць людзям у вырашэнні іх праблем,**

**— чыноўнікі глухія да патрэб людзей, таму што няма за імі кантролю зверху,**

**— чыноўнікі глухія да патрэб людзей, таму што няма дэмакратычнага кантролю знізу.**

Толькі 14% апытаных адказалі, што чыноўнікі рэальна дапамагаюць людзям. Значная большасць рэспандэнтаў пагадзілася з тым, што да праблем простых беларусаў чыноўнікі глухія. 43,5% падтрымалі тлумачэнне, што да людскіх клопатаў чыноўнікам няма справы таму, што іх працу не кантралююць зверху, 33,8% — што няма дэмакратычнага кантролю знізу.

Яшчэ адну асаблівасць дадзенага апытання выдзяляюць сацыёлагі: падзенне даверу рэспандэнтаў да дзяржаўных інстытутаў. Прычым абсалютна да ўсіх — ад урада і мясцовых выканкамаў да судоў і міліцыі. А вось да недзяржаўных інстытутаў давер, наадварот, узрос. Лідарам росту такога даверу сталі аб'яднанні прадпрымальнікаў і незалежныя прафсаюзы. *"Калі ўлічыць, што па абсалютным значэнні рэйтынг незалежных прафсаюзаў у снежні 2012 г. амаль у два разы перавышаў рэйтынг палітычных партый — 38,7% супраць 20,0%,* — робяць выснову сацыёлагі НІСЭПД, — *а таксама схільнасць беларусаў аддаваць перавагу эканамічным праблемам перад праблемамі палітычнымі, то ў беларускіх незалежных прафсаюзаў з'яўляецца шанец у будучыні паўтарыць поспех польскай "Салідарнасці". Але ці скарыстаюцца яны гэтым шанцам — гэта будзе залежаць ад збегу цэлага шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў".*

### Лукашэнка вінаваты ў крызісе, і ён выведзе з яго Беларусь

Традыцыйна сацыёлагі НІСЭПД пацікавіліся ў беларусаў іх стаўленнем да А.Лукашэнкі і лідараў апазіцыі. Высветлілася, што рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі знаходзіцца на ранейшым узроўні. Галасаваць за яго на новых выбарах прэзідэнта гатовы 31,5% апытаных. У той жа час давяраюць кіраўніку дзяржавы 39,1% рэспандэнтаў, а не давяраюць 49,1%. І гэта пры тым, што 41% рэспандэнтаў лічаць менавіта Аляксандра Лукашэнку галоўным вінаватым у цяперашнім эканамічным крызісе, а 39,1% ківае на ўрад, што таксама можна расцэньваць як недавер Лукашэнку, бо ўсім вядома, што амаль ніводнае рашэнне ўрад Беларусі не прымае самастойна.

Тым не менш менавіта з Лукашэнкам больш за ўсё рэспандэнтаў звязваюць свае надзеі на выхад Беларусі з крызісу — 34,1% з апытаных. На прадпрымальнікаў спадзяюцца 28,8%, на Расію — 24%, на Захад — 20,7%, а на апазіцыю — усяго толькі 8,6% тых, хто браў удзел у апытанні.

Дарэчы, рэйтынгі лідараў апазіцыі па-ранейшаму нізкія — ад 4,8% у Андрэя Саннікава і 4,6% ва Уладзіміра Някляева да 1,1% у Мікалая Статкевіча і 0,9% у Анатоля Лябедзькі.

На пытанне "Што, на ваш погляд, павінна рабіць апазіцыя?" больш за ўсё рэспандэнтаў (35%) сказалі "прапанаваць дыялог ураду". 33,4% выказаліся за "дамагацца адстаўкі прэзідэнта". І толькі 3,1% — "арганізаваць збройны чын ці рэвалюцыю".

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Нагадаем, што напярэдадні Новага года праз дзяржаўныя СМІ былі абнародаваны вынікі апытання, праведзенага Інфармацыйна-аналітычным цэнтрам пры Адміністрацыі прэзідэнта, згодна з якім амаль уся краіна давярае Аляксандру Лукашэнку.**

**Была названа рэкордная лічба — 81 працэнт падтрымкі.**

**Праўда, як потым высветліла "Народная Воля", гэты было не традыцыйнае сацыялагічнае даследаванне, калі для таго, каб адказы былі шчырымі, абавязкова прадугледжваецца ананімнасць апытання. Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта праводзіў апытанне па тэлефоне. Іншымі словамі, кожны абанент ведаў, што *"чалавеку з Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі"* добра вядомыя і ягонае прозвішча, і ягоны адрас.**

**Да таго ж у Інфармацыйна-аналітычным цэнтры нам адмовіліся сказаць, як канкрэтна ставілася пытанне наконт даверу кіраўніку дзяржавы, спаслаўшыся на тое, што гэта інфармацыя не падлягае разгалошванню.**

**Як вынік — мы маем дзве супрацьлеглыя карціны аб стане грамадскіх настрояў, якія малююць афіцыйныя і незалежныя сацыёлагі.**

НАДВОР'Е

## У студзені чакаюцца лютыя маразы

Надвор'е ў першым месяцы 2013 года пакажа незайздросную пераменлівасць. Слупкі тэрмометраў з плюс 2 градусаў апусцяцца да мінус 27.

Нягледзячы на анамальна цёплыя першыя студзеньскія дні, без вадохрышчынскіх маразоў сёлета мы не застанёмся.

Паводле прагнозаў сіноптыкаў, у сярэдзіне студзеня арктычнае паветра прынясе 20—25 градусаў з мінусам ноччу, а ўдзень — 10 градусаў марозу.

**Дзмітрый Рабаў,** начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, заявіў, што другая палова студзеня паб'е рэкорды адмоўных тэмператур.

ПОСЛЕ ВЫСТУПЛЕНИЯ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

## Леонид Шилько — на свободе

*Из следственного изолятора тюрьмы №4 Могилева выпущен бывший главный врач Костюковичской районной больницы .*

Напомним, что про эту необъяснимую своей жестокостью историю "Народная Воля" рассказала 18 декабря в статье Светланы Калинкиной "Людоедство". Главного врача одной из лучших районных больниц страны почему-то арестовал Комитет госбезопасности, хотя повод был плевый — не дело и не компетенция КГБ. Якобы ревизия выявила злоупотребления при закупке запчастей для служебного автотранспорта.

Для уважаемого в стране и районе человека произошедшее стало таким шоком, что с ним случился инсульт. Тем не менее полупарализованного человека арестовали.

Более того, выяснилось, что именно с подачи Комитета госбезопасности вынужден был покинуть свой пост предшественник Шилько на посту главврача районной больницы. Пока остается непонятным, чем так не угодили медики местным чекистам и почему в Костюковичском районе они не могут найти себе достойного применения.

Леонид Иванович сразу после освобождения позвонил в "Народную Волю" и поблагодарил за поддержку и газету, и коллег, которые не побоялись в этой ситуации сказать добрые слова в его адрес. Он рассказал, что в СИЗО температура в камере не поднималась выше 10 градусов. К тому же его поместили в одну камеру с людьми, обвиненными в жестоких убийствах. Тем не менее убийцы проявили больше уважения к заслуженному человеку, чем система, которой он верно служил.

Решение об освобождении Леонида Шилько было принято Следственным комитетом, куда КГБ вынужден был передать это дело.

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Вярнуліся да ранейшай нумарацыі

Многія чытачы заўважылі: "Народная Воля" вярнулася да ранейшай нумарацыі. Так, у 1995 годзе газета пачала выдавацца такім жа фарматам, як і сёння, але на чатырох старонках. Праўда, у хуткім часе яна была пераведзена на пяціразовы выхад у тыдзень. І тут пачаліся рэпрэсіі з боку ўлад. З рэдакцыяй скасавалі дамовы дзве дзяржаўныя друкарні, пошта, структуры па рознічным распаўсюджванні прэсы. Некалькі гадоў запар "Народная Воля" друкавалася ў Літве, дастаўлялася чытачам альтэрнатыўнымі службамі. На жаль, своеасаблівая эміграцыя не дазволіла захаваць пяціразовы выхад газеты ў тыдзень, вымушаны былі перайсці на двухразовы. З такой перыядычнасцю атрымлівалі чытачы "Народную Волю" і тады, калі пазней, пасля непрацяглага вяртання на "мінскую базу", яна зноў апынулася ў выгнанні, паўторна атрымаўшы прытулак у той жа Літве (Вільнюсе). Два разы на тыдзень з'яўлялася на стале чытачоў "Народная Воля" і тады, калі яна болей за тры гады друкавалася ў Смаленску (Расія).

Заўважым, менавіта ў самы цяжкі для газеты час яна стала выдавацца не на чатырох старонках, а на васьмі. У сувязі з гэтым пачалася двайная нумарацыя — чытачы атрымлівалі адразу як бы два нумары газеты.

Сёння няма сэнсу вяртацца да чатырохпалоснага варыянта газеты. У той жа час мы пакуль не можам сказаць, калі "Народная Воля" зможа выдавацца пяць разоў на тыдзень. Таму вырашылі весці далей звычайную нумарацыю.

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

ТРАГЕДИЯ

## Ужас!

*Вчера в Минске выбросилась с 7-го этажа женщина с ребенком, которому было всего полтора месяца. Оба погибли.*

— Женщине было 36 лет, — рассказал "Народной Воле" официальный представитель управления Следственного комитета по Минску **Александр Герасимов**. — У нее осталась еще дочка, которой два с половиной годика. 5 января женщина развелась с мужем... Сейчас решается вопрос о возбуждении уголовного дела по факту убийства ребенка.

Кстати, за последние полгода это второй случай в Минске, когда женщина совершила самоубийство, приговорив к смерти и своих малолетних детей. Относительно не так давно 32-летняя минчанка спрыгнула с 9-го этажа многоквартирного дома вместе с двумя малолетними детьми. Все погибли.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

*(Продолжение темы на 7-й стр.)*

СКАНДАЛ

## Не ўтрымаўся ад спакусы?

*Зусім нечакана скандальнае адценне набыла інфармацыя пра адстаўку галоўнага ідэолага Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю **Генадзя Прохарцава**.*

Як паведаміў найбуйнейшы беларускі інтэрнэт-партал TUT.by, а за ім і іншыя сайты, у звальненні Прохарцава ёсць амерыканскі след. Нібыта ён быў звольнены з-за таго, што меў Green Card (від на жыхарства ў ЗША), а значыць, не выключаў магчымасці з'ехаць з нашай краіны. Тыя ж крыніцы паведамілі, што Green Card знайшлі супрацоўнікі КДБ падчасператрусу на кватэры Прохарцава.

Праўда, пры гэтым невядома, ці была распачата супраць кіраўніка ідэалагічнага ўпраўлення ДФР крымінальная справа і, калі так, дык па якім артыкуле. Але, па неафіцыйнай інфармацыі, падставай дляператрусу сталі менавіта частыя наведванні Генадзем Прохарцавым амбасады ЗША ў Мінску. І гэта пры тым, што саслужыўцы ведаюць Прохарцава як заўзятага праціўніка палітыкі ЗША і Еўрапейскага Саюза.



У Дэпартаменце фінансавых расследаванняў "Народнай Волі" адмовіліся распавесці падрабязнасці гэтай дзіўнай гісторыі і толькі суха паведамілі, што Генадзь Прохарцаў фармальна звольнены *"па ўзгадненні бакоў".* Іншымі словамі, па асабістым жаданні.

Гэта, аднак, дае падставы меркаваць, што як мінімум меў месца нейкі непрыемны інцыдэнт, бо беспадстаўна 35-гадовы кіраўнік ідэалагічнага аддзела з працы не звольніўся б.

У амбасадзе ЗША, куды мы звярнуліся з просьбай патлумачыць, ці меў Генадзь Прохарцаў від на жыхарства ў ЗША і якім чынам яго атрымаў, нам паведамілі, што чыталі паведамленні ў СМІ, але не валодаюць інфармацыяй на гэты конт.

КДБ па традыцыі таксама нічога не каментуе.

Такім чынам, дакладна высветленым застаецца толькі адно: галоўнага ідэолага ДФР звольнілі.

## Банкір Кацарэнка віны не прызнае

Сталі вядомыя новыя падрабязнасці справы былога старшыні Назіральнага савета "Тэхнабанка" Уладзіслава Кацарэнкі.

Як паведамлялася раней, банкір правёў незаконныя фінансавыя аперацыі на 417 мільярдаў рублёў. Паводле даных Следчага камітэта, такія вынікі дзейнасці на працягу 5,5 года — у 2006—2011 гадах.

Як паведамляе сайт "Ежедневник", праз яго кампаніі прайшлі тысячы фінансавых аперацый. Кацарэнка нібыта трымаў самую вялікую ў краіне падпольную біржу па абмене валюты. Следчы камітэт сцвярджае, што паслугамі банкіра карысталіся прыватныя фірмы, каб ухіліцца ад падаткаў. Было налічана незаплачаных падаткаў на суму больш за 800 тысяч долараў.

Абарот кампаній, праз якія праходзілі фінансавыя аперацыі, ацэньваецца ў 150 мільёнаў долараў.

Уладзіслаў Кацарэнка дагэтуль сваёй віны не прызнае і спадзяецца, што падчас судовых слуханняў зможа даказаць сваю невінаватасць. Пра вердыкт суда "Народная Воля" паведаміць сваім чытачам.

Народная Воля http://www.nv-online.info
9 СТУДЗЕНЯ 2013 г.

АФІЦЫЙНА

# Цярністы шлях да Бога

*Сярод сёлетніх лаўрэатаў прэміі прэзідэнта Беларусі "За духоўнае адраджэнне" ёсць адно незвычайнае імя.*



Пісьменнік Анатоль Чэбаганаў атрымаў спецыяльную прэмію за стварэнне серыі гісторыка-дакументальных кніг "Я — сын Ваш". Менавіта гэта прозвішча нас і зацікавіла, бо Анатоль Чэбаганаў больш вядомы як былы высокі чыноўнік і да нядаўняга часу — паспяховы бізнесмен. Тым больш незвычайна, што ягоную кандыдатуру на ўзнагароду вылучыў Сінод Беларускай праваслаўнай царквы.

Бацька і сын Анатоль і Андрэй Чэбаганавы — уладальнікі аднаго з найбуйнейшых у СНД холдынгаў па вытворчасці і рэалізацыі спецадзення і абутку. Анатоль Чэбаганаў пачынаў гэты бізнес у 1991 годзе, а да гэтага доўгі час працаваў на розных пасадах у Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Вытворчыя пляцоўкі кампаніі "Стэцкевіч-спецвопратка" цяпер размешчаны ў Рагачове, Навагрудку, Гомелі. Яе прадукцыя рэалізуецца як на рынку краін СНД, так і Еўрасаюза. У свой час Чэбаганаў-старэйшы стаў адным з першапраходцаў у рэалізацыі дзяржаўнай дырэктывы па перадачы адстаючых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў паспяховым камерцыйным структурам. Так яму дасталася гаспадарка "Азёрны" ў Мінскім раёне.

Здавалася б, працуй і толькі паспявай грошы лічыць. Але ён сышоў з бізнесу і перадаў справу сыну Андрэю. А сам заняўся генеалагічнымі пошукамі і будаўніцтвам храмаў. Дарэчы, брэнд "Стэцкевіч" — гэта не што іншае, як прозвішча радавітага продка Чэбаганавых.

Царква прадставіла былога бізнесмена да ўзнагароды як за пісьменніцка-даследчую працу, так і за дапамогу ва ўсталяванні помніка праведнай Сафіі Слуцкай і ўдзел у аднаўленні і будаўніцтве трох храмаў.

**АФІЦЫЙНА**

Указ, якім вызначаны лаўрэаты прэміі "За духоўнае адраджэнне" па выніках 2012 года, быў падпісаны 8 студзеня.

Так, прэмію атрымаў аўтарскі калектыў архітэктараў-рэстаўратараў, якія распрацавалі праект рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля XVI—XVIII стагоддзяў у Нясвіжы.

Прэмія таксама прысуджана дырэктару Радашковіцкай школы-інтэрната для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, Ігару Дзятлаўскаму, ігумені Свята-Раства-Багародзічнага жаночага манастыра ў Гродне ігумені Гаўрыіле, калектыву Гомельскага абласнога дыягнастычнага медыка-генетычнага цэнтра з кансультацыяй "Шлюб і сям'я", дырэктару рэлігійнай місіі "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі Віталю Кульпекшу.

Спецыяльных прэмій прэзідэнта ўдастоены калектыў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь і аўтарскі калектыў Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" "за яркае сцэнічнае ўвасабленне твораў класікаў беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча і Кандрата Крапівы", а таксама калектывы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і іншыя.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АФІЦЫЙНА

## Загад «творцам» законаў

*Першы ўказ, які Аляксандр Лукашэнка падпісаў у гэтым годзе, вызначае, якія законы павінны быць падрыхтаваны.*

У прыватнасці, у бягучым годзе плануецца падрыхтоўка чатырох новых законапраектаў: "Аб альтэрнатыўнай службе", "Аб рынку каштоўных папер", "Аб гарадскім электрычным транспарце і метрапалітэне" і "Аб ідэнтыфікацыі, рэгістрацыі, наглядзе за сельскагаспадарчымі жывёламі і прадуктамі жывёльнага паходжання".

Акрамя таго, будзе падрыхтавана новая рэдакцыя Воднага кодэкса Рэспублікі Беларусь, а таксама канцэпцыя праекта Закона "Аб арганізацыях, якія самарэгулююцца".

Прэзідэнт плануе ўнесці ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 11 законапраектаў. Гэта праекты законаў, якія складаюць "бюджэтны пакет", а таксама накіраваны на карэкціроўку Выбарчага кодэкса Беларусі, Крымінальнага, Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў, Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і Закона "Аб Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь".

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Ці ўтрымаецца рубель?

***Нешта зноў неспакойна з гэтым нашым рублём. Адны кажуць, што зноў будзе абвал курса, другія — што не трэба хвалявацца. Каму верыць?***

**Ніна Лебедзь, Мінск.**

У нашай краіне вельмі цяжка адказаць на такое пытанне, паколькі афіцыйныя асобы заўсёды запэўніваюць, што хвалявацца не трэба, а потым бывае ўсяляк.

Таму будзем абапірацца на лічбы і разлікі эканамістаў.

У беларускім бюджэце на 2013 год закладзены сярэднегадавы курс 8950 рублёў за долар. Шэраг экспертаў (напрыклад, былы кіраўнік Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч) лічаць, што гэта вельмі аптымістычны прагноз. Па іх прагнозах, да канца года 1 долар будзе каштаваць каля 10 тысяч беларускіх рублёў. Але ў любым выпадку большасць экспертаў прагназуюць не раптоўную і аднамомантную дэвальвацыю, як гэта было пару гадоў таму, а паступовае зніжэнне "вагі" нацыянальнай валюты. Так што сачыце за каціроўкамі.

ПЕРСОНА

## «Я устал, я ухожу»

*Экс-глава Минского автомобильного завода Александр Боровский пока не планирует продолжать трудовую деятельность.*

Об этом сообщает информационное агентство "Интерфакс" со ссылкой на свои источники в госорганах.

*"У Александра Васильевича в декабре 2012 года закончился срок действия трудового контракта, он изъявил желание выйти на пенсию, в связи с чем на ОАО "МАЗ" был назначен новый гендиректор, его назначение одобрено главой государства в конце декабря",* — рассказал собеседник агентства.

Он отметил, что *"более ранние планы о том, что Боровский продолжит свою трудовую деятельность в органах местной исполнительной власти, не подтвердились".*

*"Пока речь идет о том, что ему необходимо отдохнуть, возможно, поправить здоровье. Как будет в дальнейшем складываться ситуация — покажет время",* — сказал источник.

Напомним, что ситуация с увольнением гендиректора МАЗа вышла, мягко говоря, странная. Всего пару месяцев назад Александр Лукашенко всячески его расхваливал и ставил в пример, а потом неожиданно уволил. В этой связи пошли самые разные слухи, вплоть до того, что Александру Боровскому готовят кабинет в правительстве.

КАЗУС

# Пыл у вочы

*У Бангладэш чакаюць, што Беларусь інвестуе ў гэтую краіну мільярд долараў.*

Пра гэта паведамляюць СМІ далёкай азіяцкай краіны. Як паведамляе выданне The Daily Star, грошы пойдуць у сельскую гаспадарку, жывёлагадоўлю, гатовую прадукцыю, прадукты харчавання і лёгкую прамысловасць краіны.

*"Дэлегацыя Беларусі выказала цікавасць да выкарыстання патэнцыялу краіны ў галіне вытворчасці і захавання малака ды малочных прадуктаў, завода сухога малака, а таксама вытворчасці прадуктаў харчавання буйной рагатай жывёлы, ветэрынарных і медыцынскіх прэпаратаў для птушак",* — перадае The Daily Star словы сакратара аддзела развіцця сельскай гаспадаркі і кааператываў Міхір Канці Маюмдэр.

Варта адзначыць, што ў беларускую дэлегацыю, якая надавала такіх абяцанняў, сярод іншых уваходзілі амбасадар нашай краіны ў Індыі Віталь Прыма, а таксама генеральны дырэктар Слуцкага сыраробчага камбіната Анатоль Сцяцко. Напэўна, яны забыліся паведаміць сваім суразмоўцам, што Беларусь сама зараз шукае грошы па ўсім свеце, бо не мае чым пагашаць ужо набраныя даўгі.

**АФІЦЫЙНА**

## Дзе б перапазычыць?

Пік плацяжоў па знешнім дзяржаўным доўгу, што прыпадае на 2013—2014 гады, з'яўляецца адной з галоўных праблем для беларускай эканомікі. За раней набраныя крэдыты Беларусі трэба на працягу як мінімум двух гадоў аддаваць па 3 мільярды долараў. Першае выпрабаванне трэба будзе вытрымаць ужо ў бягучым годзе. Беларускія ўлады пакуль маюць намер дзейнічаць па-старому: як мінімум палову даўгоў пагасіць за кошт новых пазык.

У тлумачальнай запісцы Мінфіна Беларусі да прынятага бюджэту на 2013 год гаворыцца, што "аб'ём рэсурсаў, неабходных для пагашэння асноўнага доўгу ў 2013 годзе, складзе каля 2,3 мільярда долараў, што перавышае плацяжы 2012 года ў 2,6 раза". На пагашэнне працэнтаў па гэтым крэдыце будзе накіравана з бюджэту 786 мільёнаў долараў (у 1,3 раза больш, чым у 2012 годзе).

Больш за ўсё Беларусь у гэтым годзе завінавацілася перад Міжнародным валютным фондам (МВФ) — амаль 2 мільярды долараў.

На другім месцы сярод нашых крэдытораў знаходзіцца Кітай. Паднябеснай трэба будзе выплаціць 367 мільёнаў долараў. Яшчэ 319 мільёнаў мы завінавацілі Расіі. Ну і гэтак далей.

ДА ЎВАГІ!

## Хутка развітаемся

*У канцы лютага з абарачэння знікнуць банкноты ў 10 і 20 рублёў.*

Але калі гэтыя грошы ў вас застануцца ў памеры не менш за 50 рублёў, то іх з 1 сакавіка па 30 верасня можна будзе памяняць ва ўсіх беларускіх банках.

Адначасова Міністэрства гандлю вызначыла парадак акруглення рознічных цэн як у бок павелічэння, так і ў бок памяншэння.

Яшчэ вясной мінулага года Нацыянальны банк прызнаў немэтазгодным выкарыстанне дробных банкнот у звароце. З восені іх выраб быў спынены.

**Дар'я СОЛТАН.**

ЧУЛІ?

## Дзеці пачакаюць

Абяцанага з Новага года павышэння памеру грашовай дапамогі па доглядзе за малалетнімі дзецьмі не адбудзецца.

Як даведалася "Народная Воля", Аляксандр Лукашэнка пакуль не падпісаў адпаведны закон, таму памер дапамогі застаецца ранейшым. Па крайняй меры ў студзені.

Нагадаем, што закон, які прадугледжвае новы механізм разліку дапамогі па доглядзе за дзецьмі ва ўзросце да трох гадоў, дэпутаты прынялі яшчэ ўвосень. 20 снежня ён быў зацверджаны Саветам Рэспублікі.

Згодна з ім, памер дапамогі на першае дзіця павінен скласці 35% сярэднямесячнай заработнай платы, на другога і наступных дзяцей — 40% сярэднямесячнай заработнай платы. Аднак разрэкламаванае павышэнне дапамогі на дзяцей пакуль не зацверджана кіраўніком дзяржавы. Можа, за святамі не да таго было. Але не выключана, што чарга да закона не дайшла і ў мэтах эканоміі. Бо, як падлічылі ва ўрадзе, новы механізм выплат азначае павышэнне памераў дапамогі ў сярэднім у 1,5 раза. Так што тут кожны месяц замаруджвання — жывыя сродкі, якія застануцца дзяржаве.

**Дар'я СОЛТАН.**

## Колькасць пенсіянераў у Беларусі перавысіла 2,5 мільёна

У пенсіённую сістэму Беларусі ў 2012 годзе ўліліся больш за 133,8 тысячы чалавек, паведаміла намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення пенсіённага забеспячэння і сацыяльнага страхавання Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Ларыса Яшкова.**

*"У краіне адзначаецца рост колькасці пенсіянераў — упершыню за многія гады колькасць атрымальнікаў пенсій у органах па працы, занятасці і сацабароне перавысіла 2,5-мільённы рубеж і склала на 1 студзеня 2013 года 2 мільёны 512 тысяч чалавек,* — адзначыла прадстаўнік міністэрства. — *Ва ўмовах скарачэння колькасці насельніцтва краіны павышаецца і ўдзельная вага пенсіянераў — гэты паказчык ужо набліжаецца да 27 працэнтаў".*

ЗДАРЭННЕ

## Патануў беларускі консул у Бразіліі

*СМІ Лацінскай Амерыкі паведамілі пра тое, што ў Рыа-дэ-Жанейра патануў беларускі консул Сяргей Гурэўскі.*



Беларускаму дыпламату *(на здымку злева)* было 55 гадоў. Трагедыя здарылася на пляжы ў раёне запаведніка ў заходняй частцы Рыа-дэ-Жанейра, дзе дыпламат трапіў у моцнае цячэнне.

Выратавальнікі паспелі дастаць яго з вады жывым і аператыўна даставілі ў бальніцу, аднак выратаваць яго не ўдалося.

Дыпламатычныя крыніцы растлумачылі агенцтву ABC, што цела консула будзе на гэтым тыдні адпраўлена ў Беларусь, дзе яго і пахаваюць. Супрацоўнікі беларускага консульства ўжо апазналі і забралі цела. Як паведамляе тэлеканал R7.com, гэта былі мужчына і жанчына, але яны адмовіліся гутарыць са СМІ. Па некаторых звестках, Сяргей Гурэўскі дапрацоўваў у Рыа-дэ-Жанейра апошнія дні, таму што вырашыў завяршыць дыпламатычную кар'еру.

Сяргей Яўгенавіч Гурэўскі нарадзіўся ў Слуцкім раёне. Падпалкоўнік. Некаторы час выкладаў ваенны пераклад у Мінскім лінгвістычным універсітэце.

8 студзеня начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных пацвердзіў, што консул Беларусі ў Рыа-дэ-Жанейра Сяргей Гурэўскі загінуў у выніку няшчаснага выпадку на вадзе. Міністэрства замежных спраў выказала спачуванні родным і блізкім Сяргея Гурэўскага.

**Алена НОВІКАВА.**

І ТАКОЕ БЫВАЕ...

## Цэліў у сэрца

*Жыхар Лельчыцкага раёна наскрозь прастрэліў сябе са стрэльбы, але застаўся жывы.*

35-гадовы жыхар вёскі Іванава Слабада Лельчыцкага раёна на Каляды спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Як паведаміла прэс-служба УУС Гомельскага аблвыканкама, мужчына стрэліў у сябе з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы ІЖ-17, прыклаўшы яе да левага боку грудзей. Але, як вядома, на самай справе сэрца ў кожнага з нас знаходзіцца не злева, а прыкладна пасярэдзіне грудной клеткі. У выніку мужчына прычыніў сабе скразное агнястрэльнае раненне, але застаўся жывы.

Няўдалы самазабойца дастаўлены ў бальніцу.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## У Беларусі на вытворчасці загінулі 168 чалавек

Гэтыя звесткі за 2012 год агучыў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Аляксандр Румак.**

Паводле яго слоў, у 2012 годзе на вытворчасці ў нашай краіне загінула на 28 чалавек менш, чым у 2011-м.

Румак адзначыў, што тэндэнцыю зніжэння траўматызму на вытворчасці са смяротным зыходам неабходна захаваць і ў 2013 годзе.

НАБОЛЕЛО!

# Довели...



Наконец-то свершилось! Так, вероятно, думали многие камвольщики после посещения их предприятия самим президентом. Заключение главы государства: "Преступная безответственность!" Вот только такой вывод опоздал как минимум лет на десять. И обрати глава государства раньше свой царский взор на проблемное предприятие, глядишь, и не случилось бы того, что случилось.

Как раз был подходящий момент: посещение в 2004 году предприятия первым вице-премьером Владимиром Семашко со товарищи, которые рассказывали нам об экономическом чуде в стране. Но быстро только сказка сказывается... А на отдельно взятом комбинате чудо никак не случалось. Не помогли и радикальные меры, принимаемые властями, — замена директоров, как правило, после очередной попытки самого коллектива достучаться до земных богов.

Посещение "Камволя" Александром Лукашенко госканалы ТВ сделали главной новостью и тиражировали едва ли не с первых минут в течение всего дня. Этот день камвольщикам действительно запомнится надолго: ведь не каждый день к ним приезжает глава государства. И не каждому (а в этот день право работать было предоставлено не всем) дается возможность пообщаться с живым президентом, не каждому улыбнется удача быть запечатленным рядом с Самим!

Но этот день запомнится и руководству предприятия, включая и руководство концерна "Беллегпром", так как для некоторых из них тот рабочий день оказался последним.

Мне как бывшему работнику комбината, ушедшему не по своей воле после того, как отработал без малого 33 года, было не в радость смотреть эти сюжеты. Видимо, я не любитель показательных экзекуций, и, хотя меня трудно упрекнуть в любви к "директорскому корпусу", по-человечески их было жаль: растерянные, побелевшие лица, попытка что-то сказать в свое оправдание пресекалась сразу.

Увидев обстановку и условия, в которых работают камвольщики, Александр Григорьевич искренне возмущался: *"Как можно здесь держать людей?"* Увы, но это реалии "Камволя", и условия, мягко говоря, спартанские здесь существуют не день, не два и даже не месяц — это длится годами. И разбитые стекла в цехах (в зимний период!) еще свежи в моей памяти, хотя прошло почти пять лет с той поры, как я тоже был частью этого коллектива. И небо грело наше предприятие не один десяток лет, а руководство сильно по этому поводу не парилось, получая при этом не самую маленькую зарплату при минусовом балансе предприятия.

Так что 9,5 миллиарда убытков, о которых говорилось за кадром сюжета о посещении главой государства "Камволя", это мелочь по сравнению с тем, сколько было вбухано людских денег, — приватизация ведь им тоже обошлась не за спасибо, и это они выплачивали старые долги предприятия, накопленные с советских времен...

Однако висит эта "мелочь" на трудовом коллективе, хотя долги образовывались благодаря конкретным лицам — бывшим директорам предприятия. И требуется еще 200 миллионов евро, чтобы "Камволь" оживить (цифра была озвучена уже самим президентом).

Но рассчитываться по счетам придется тому же коллективу, гробящему свое здоровье в условиях, которые им создал очередной генеральный директор, берущий очередной кредит под неслабые проценты. Коллективу не у кого спросить ни про условия, ни про нищенскую зарплату, ни про то, насколько необходим ряд новых должностей для руководящего состава, ни про неоднократные командировки-вояжи за границу самых разных должностных лиц. Не у кого спросить, в какую копеечку обходится все это предприятию, дышащему на ладан!

Не спросят по одной простой причине: и для трудового коллектива, и для наблюдательного совета (который только наблюдает, не вмешиваясь в производственно-хозяйственную деятельность руководителя) гендиректор является нанимателем, в руках которого имеется весомый аргумент-дубина — контракт. А потерять работу по контракту проще простого.

Кстати, интересный факт из биографии новоиспеченного директора, с которым на прежней работе контракт просто не продлили. Не менее интересно, как это озвучил сам президент: "С хорошим специалистом не продлили контракт, потому что он имеет другую точку зрения!"

Выходит, что Александр Григорьевич, подписывая свой пресловутый декрет №29, вводящий контракты, понимал, что работодатель будет использовать контракты как инструмент расправы с инакомыслием, на абсолютно законных основаниях увольняя ну очень хорошего специалиста — будь он трижды квалифицированный и семи пядей во лбу — без объяснения причин.

Посещая не так давно предприятие в Ивацевичах и также сняв с должности директора, за которого пытались заступиться работницы, президент упрекнул их: *"В первую очередь виноваты вы, а потом директор"*.

Там ситуация, конечно, не такая, как на "Камволе", но по большому счету, может, Александр Григорьевич и прав. Но кто или что способствует тому, что работник только на бумаге, то бишь в контракте, имеет права? А на деле?

...Ведь камвольный комбинат является показателем того, что люди, доведенные руководством до унизительного состояния, все-таки и далее готовы терпеть. То есть смирились и с холодными цехами, и с "достойной зарплатой", на которую не знаешь что купить и из которой еще удерживаются взносы на зарплату "защитникам" их интересов — официальному профсоюзу, возглавляемому Леонидом Козиком.

Так что, я думаю, для полноты картины присутствие этого чиновника в команде высоких официальных лиц, посетивших "Камволь" в тот день, было бы не лишним.

Не лишним было бы присутствие и так называемого лидера профсоюзной организации "Камволя" госпожи Галины Берестовой (кстати, бессменной; по сроку нахождения на своем "боевом" посту она переплюнула самого президента), и главного идеолога предприятия Елены Песковой. И если я правильно понимаю, то цели и задачи этих дам — печься денно и нощно о создании нормального морально-психологического климата в коллективе. Не потому ли в таком "климате" и соответствующий климат в цехах?

Похоже, для себя Александр Григорьевич сделал открытие, что в его процветающей стране — "государстве для народа", как он любит выражаться, работник превращен в рабочую скотину. С той лишь разницей, что без привязи. Только куда бежать, если ты уже отработанный материал? Много ли Лукашенко видел в цехах молодежи? Ведь основной состав "Камволя" — люди пенсионного или предпенсионного возраста, которым, учитывая еще и узкую специализацию их профессий, просто некуда податься. К тому же не факт, что если в другом "хлеву" будет на пару градусов теплее, то отношение к работникам окажется другим. "Безобразное отношение к людям" — так это назвал президент. Но это не только болезнь "Камволя", это болезнь общая.

Не сомневаюсь, что кто-то смотрел сюжеты с камвольного, других предприятий, в которых глава государства выступает в роли защитника "сирых и убогих", и восхищался им: "Строг, но справедлив". А как по мне — так все это показуха. Потому что сегодня сняли, завтра — вернули. Так, Светлана Стрижак, которую публично уволил Александр Лукашенко, теперь работает на предприятии главным инженером.

**Виктор ТРЕТЬЯКОВ, бывший рабочий "Камволя", ныне пенсионер.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 СТУДЗЕНЯ 2013 г.

ПРАБЛЕМА!

# Пра школу і яе гора-рэфарматараў

Штогод грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" арганізуе дадатковае вывучэнне беларускай мовы і гісторыі для тых школьнікаў, чые бацькі адчуваюць трывогу за сённяшні ўзровень валодання іх дзецьмі роднай мовай і элементарнымі гістарычнымі ведамі. Першыя заняткі мы, выкладчыкі, звычайна прысвячаем тэсціраванню і апытанню нашых вучняў, прычым імкнёмся задаваць ім пытанні або праводзіць з імі тэсты і па літаратуры, і па геаграфіі, і па іншых абавязковых прадметах школьнай праграмы. Але я і мае калегі, вельмі вопытныя педагогі са шматгадовым стажам, апошнім часам — і асабліва пачынаючы з 2009 года — сталі заўважаць, што ўзровень базавых ведаў вучняў пачаў рэзка зніжацца.

Вось некалькі ўрыўкаў з дыялогаў выкладчыкаў і наведвальнікаў нашых заняткаў.

### Дыялог першы.

**Выкладчык.** Скажыце, калі ласка, калі адбылася Грунвальдская бітва?

***Вучань К.*** *(васьмікласнік мінскай школы, мае адзнаку "сем" па гісторыі Беларусі):* М-м-м... Недзе ў шаснаццатым стагоддзі.

### Дыялог другі.

***Выкладчык.*** Скажыце, калі ласка, што такое *мерыдыян*?

***Вучань С.*** *(сямікласнік мінскай школы, які мае адзнаку "восем" па геаграфіі)*: Ой, у нас геаграфію амаль што не выкладаюць; настаўніца часта хварэе, дык нас падчас заняткаў водзяць бясплатна глядзець хакей...

### Дыялог трэці.

***Выкладчык.*** Якія вы ведаеце формулы скарочанага множання?

***Вучаніца А.*** *(сямікласніца школы з Мінскага раёна, мае адзнаку "сем" па матэматыцы)*: Нешта не магу нічога ўспомніць...

### Дыялог чацвёрты.

***Выкладчык.*** Як называюцца тры асноўныя роды літаратуры?

***Вучаніца Г.*** *(васьмікласніца мінскай гімназіі, мае адзнаку "восем" па беларускай літаратуры)*: Ой, мы гэта, здаецца, не праходзілі! *(Вывучэнню родаў і жанраў літаратуры, паводле школьнай праграмы, прысвечаны ўвесь сёмы клас. — **Л.Б.**).*

Прайшло вось ужо чатыры з паловай гады ад пачатку апошняй, "рэвалюцыйнай", рэформы школьнай адукацыі, што была запушчана беларускімі ўладамі летам 2008 года. Гэта той тэрмін, які дае магчымасці зрабіць досыць глыбокія, абгрунтаваныя высновы аб яе змесце і эфектыўнасці.

Яшчэ на пачатку таго самага 2008 года на нарадах і мерапрыемствах самага рознага ўзроўню актыўна абмяркоўваўся працэс завяршэння пераходу на 12-гадовае навучанне ў сярэдняй школе, усхваляліся дасягненні ў галіне стварэння профільнага навучання, рыхтаваліся да выдання паралельныя навучальныя дапаможнікі для 12-х класаў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы, а таксама для ліцэяў і гімназій. І раптам, калі ўжо надышла вясна, была створана так званая "міжведамасная камісія" на чале з тагачасным намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Анатолем Рубінавым. У сваіх інтэрв'ю гэты чыноўнік у званні акадэміка пачаў падкрэсліваць, што, маўляў, у той час, калі ён сам вучыўся ў сярэдняй школе (а гэта была сярэдзіна 1950-х гадоў), існавала *"вельмі добрая сістэма адукацыі".* У канцы мая 2008 г. было абвешчана, што міжведамасная камісія прыйшла да радыкальнай высновы: 12-гадовая агульная адукацыя Беларусі зусім не патрэбная і нават шкодная. А Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю Першаму нацыянальнаму тэлеканалу крыху рассунуў заслону над галоўным матывам новай рэформы: *"Вяртанне да адзінаццацігодкі дазволіць дзяржаве сэканоміць".* Кіраўнік дзяржавы пры гэтым удакладніў, што, калі б у Беларусі і ў далейшым практыкавалася 12-гадовая форма навучання ў школах, гэта кожны год патрабавала б дадатковага фінансавання ў памеры каля 150 млрд рублёў *(у цэнах 2008 года. — **Л.Б.**)*. Гэтымі сродкамі быццам бы вырашылі, паводле слоў Галоўнага Педагога, распарадзіцца па-іншаму: *"Гэтыя грошы мы лепш аддадзім на стыпендыі і зарплаты настаўнікаў. На працягу гэтай пяцігодкі мы паставім сярэднюю школу на правільныя рэйкі, і яна будзе развівацца далей".*

Зразумела, што ніякага грамадскага абмеркавання працэсу *"пераскоквання"* ад адной рэформы (што пачыналася яшчэ ў 1997 годзе) да іншай і блізка не было. Прэзідэнцкі ўказ аб правядзенні новай рэформы быў падпісаны ўжо ў сярэдзіне лета, калі большасць педагогаў знаходзілася ў чарговых адпачынках. Затое сваіх летніх адпачынкаў не дачакаліся тады супрацоўнікі Інстытута адукацыі, якія атрымалі рэвалюцыйнае заданне на працягу прыкладна аднаго месяца стварыць новыя навучальныя праграмы для цяпер ужо 11-гадовай агульнаадукацыйнай школы. Вучні, што збіраліся прыйсці ў верасні 2008 года ў перадапошні, адзінаццаты клас школы, ліцэя або гімназіі, і іх бацькі раптам даведаліся, што яны ўжо будуць вучыцца ў выпускных класах і што іх чакае навучанне па скарочаных праграмах.

Натуральна, што для навучання па новых праграмах да верасня *"года вялікага пералому"* не існавала патрэбных падручнікаў, іншых дапаможнікаў. Быў у аўральным парадку аб'яўлены конкурс на напісанне такіх падручнікаў, і адзіным выразным патрабаваннем было тое, каб іх аб'ём не перавышаў 15 улікова-выдавецкіх лістоў. Ні пра якія паралельныя навучальныя дапаможнікі, у адрозненне ад папярэдняй рэформы, гаворка ўжо не ішла. Варта таксама нагадаць чытачам, што яшчэ ў 1995 годзе была ўведзена ідэалагічная цэнзура на навучальныя дапаможнікі па прадметах сацыяльна-гуманітарнага цыкла: указам прэзідэнта была створана спецыяльная камісія, закліканая даваць адпор пранікненню ў вучэбную літаратуру *"нацыяналістычнага духу"* і *"чужых нам заходніх каштоўнасцяў".* Натуральна, спачатку гэтая камісія мела вельмі малы ўплыў на пазіцыю педагагічнай грамадскасці і ў шэрагу выпадкаў, наступаючы сабе на горла, прапускала ў друк не да канца скалечаныя рукапісы. Але ж з другой паловы 1990-х гадоў у асяроддзі прэзідэнта стала прапагандавацца ідэя аб стварэнні і навязванні беларускаму грамадству нейкай адзінай і абавязковай *"дзяржаўнай ідэалогіі",* хоць у артыкуле 4 дзейнай Канстытуцыі Беларусі чорным па белым запісана: *"Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь рэалізуецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў".*

Трэба сказаць, што за чатыры апошнія гады падручнікі для наноў рэфармаванай школы збольшага ўжо напісаныя. Што праўда, вучэбныя кнігі, напрыклад, па беларускай і рускай мовах і літаратуры або па грамадазнаўстве сведчаць толькі пра тое, што іх аўтары — разумныя людзі, якія шчыра вераць, што дзевяцікласнікі ці выпускнікі агульнаадукацыйнай школы здолеюць мала што не аўтаматычна загаварыць іхнім прафесійным жаргонам, а дэталёвае вывучэнне прэфіксаў, суфіксаў, постфіксаў, інфіксаў, пастаноўкі косак, двукосся, кропкі з коскай, працяжнікаў навучыць падлеткаў і маладых людзей хоць колькі-небудзь выразна фармуляваць свае думкі ў вусным або пісьмовым маўленні...

У сваю чаргу складальнікі вучэбнай праграмы па біялогіі для 10-га класа неяк падзабылі, на якім курсе біяфака яны ў свой час праходзілі гэты самы матэрыял; аўтары ж праграм па матэматыцы, напрыклад, вырашылі (відаць, назло ўсёй Еўропе і цывілізаванаму свету) выключыць з праграм і падручнікаў тэму "асновы камбінаторыкі і тэорыі імавернасці" — відавочна патрэбную ў будучым жыцці тым маладым людзям, чыя матэматычная адукацыя мае закончыцца ў сярэдняй школе.

Згодна з новым вучэбным планам, у 2008 годзе была рэзка скарочана агульная колькасць гадзін па шмат якіх школьных дысцыплінах (у тым ліку па роднай і замежных мовах), а некаторыя прадметы наогул з гэтых планаў зніклі. Да прыкладу, больш не вывучаецца ў школе такая дысцыпліна, як "Айчынная і сусветная мастацкая культура". Падрыхтоўка спецыялістаў па гэтым прадмеце, дарэчы, вялася на працягу папярэдніх дзесяці гадоў у шэрагу ВНУ краіны, у тым ліку на платнай аснове. Можна сабе ўявіць, што адчулі дыпламаваныя спецыялісты, якія часам заплацілі немалыя сумы за адукацыю па абранай спецыяльнасці — калі ўсе яны раптам апынуліся зусім не патрэбнымі ў сістэме сярэдняй адукацыі, у сваіх галоўных патэнцыйных працадаўцаў! Ані прэзідэнт, ані намеснік кіраўніка ягонай адміністрацыі на такую "драбязу" ўвагі не звярнулі... Між іншым, і працытаваныя намі раней словы Найвышэйшага Кіраўніка аб тым, што беларускіх педагогаў чакае істотнае павышэнне заробкаў, так і засталіся адно што словамі. Сёння беларускі настаўнік сярэдняй школы, маючы 15-гадовы педагагічны стаж і поўную стаўку, зарабляе штомесяц не больш за два з паловай мільёны беларускіх рублёў. Дарэчы, некалькі дзён таму ў мяне была магчымасць задаць пытанне наконт памераў зарплаты настаўніка ў суседняй Літве непасрэдна намесніку міністра адукацыі гэтай краіны спадарыні Нерыі Пуцінайтэ. Паводле яе слоў, у аналагічных умовах літоўскі настаўнік цяпер зарабляе прыкладна 800 еўра штомесяц. Гэта пры тым, што ў параўнанні з Беларуссю цэны на многія-многія рэчы ў Літве значна ніжэйшыя.

У кастрычніку гэтага года на сумеснай прэс-канферэнцыі беларускага міністра адукацыі Сяргея Маскевіча і старшыні афіцыйнага прафсаюза работнікаў адукацыі Аляксандра Бойкі было прызнана, што *"сярэдняя зарплата настаўнікаў у Беларусі за няпоўныя два гады знізілася на 95 долараў".*

Вернемся, аднак, да зместу беларускай рэформы школьнай адукацыі 2008 года. Рэформа ўзаконіла фактычную ліквідацыю профільнага навучання ў старэйшых класах сярэдняй школы, а створаныя ў Беларусі за апошнія 20 гадоў некалькі сотняў гімназій і ліцэяў, па сутнасці, ператварыліся ў фікцыю. Адзіныя праграмы, адзіныя і безальтэрнатыўныя (з адзінкавымі выключэннямі) падручнікі, фактычна адзіныя нормы фінансавання прыводзяць да таго, што ўся розніца паміж звычайнай школай постсавецкага тыпу, з аднаго боку, і ліцэем або гімназіяй, з другога, палягае ў крыху іншай напаўняльнасці класаў ды... у самой назве: пасля немілагучнай абрэвіятуры ДУА (дзяржаўная ўстанова адукацыі) стаіць слова "ліцэй", "гімназія" або проста "агульнаадукацыйная сярэдняя школа".

Рэформа 2008 года прывяла таксама да далейшага паглыблення дыскрымінацыі тых вучняў, што наведваюць агульнаадукацыйныя школы з беларускай, а не з рускай мовай навучання. Гэтыя навучэнцы наогул не маюць сёння цэлага шэрагу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, у тым ліку мультымедыйных, на абранай іх бацькамі мове навучання. Напрыклад, да гэтага часу вучні беларускамоўных класаў і школ маюць толькі рускамоўныя працоўныя сшыткі па геаграфіі, інфарматыцы, сусветнай гісторыі, грамадазнаўстве; так і не выдадзена беларускамоўная версія падручніка па інфарматыцы для шостага класа... Бацькам немагчыма набыць у свабодным продажы ані атласаў, ані контурных картаў на беларускай мове нават па такім прадмеце, як геаграфія Беларусі!

Дзяржава ўпарта супраціўляецца ідэі стварэння дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе асноўнай мовай навучання была б беларуская, хоць у падтрымку гэтай ідэі актывістамі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны яшчэ напрыканцы 1990-х гадоў быў сабраны не адзін дзясятак тысяч подпісаў беларускіх грамадзян. Натуральна, што ў такіх варунках на тое, каб вучыць сваё дзіця па-беларуску ў пачатковай, базавай і сярэдняй школе, адважваюцца толькі самыя смелыя і непахісныя ў сваёй беларускасці бацькі.

Самы ж галоўны вынік адукацыйнай "рэвалюцыі", што пачалася ў 2008 годзе, — гэта поўнае ператварэнне дзяржаўных навучальных устаноў Беларусі ў частку сістэмы ідэалагічнай абслугі сённяшняй прыўладнай групоўкі. Нікога не хвалюе, *як працуе* ці *колькі зарабляе* настаўнік школы або выкладчык ВНУ — галоўнае, каб ён выконваў рытуалы лаяльнасці да "вертыкалі" на чале з Самім. Усё гэта ўжо прывяло да трыумфальнай перамогі вядомага яшчэ з савецкіх часоў прынцыпу: "Думаю адно, кажу другое, раблю трэцяе". Жорсткая цэнтралізацыя адукацыйнай сістэмы, узурпацыя дзяржавай права гаварыць ад імя грамадства, аднак, ні да чога добрага ў найбліжэйшай перспектыве не прывядуць.

Прыняты адразу пасля пагрому апазіцыі 19 снежня 2010 года "Кодэкс аб адукацыі" — апафеоз чыноўніцкага мыслення: разбітыя на 295 артыкулаў 63 раздзелы гэтага дакумента засведчылі, што ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь нават такія пытанні, як арганізацыя ўстаноў пазашкольнай адукацыі дарослых, павінны ў канчатковым выніку вырашацца асабіста прэзідэнтам краіны (!).

Я заўсёды лічыў і цяпер лічу, што занадта моцны сверб рэфармавання ў такой далікатнай галіне, як сярэдняя адукацыя, ні да чога добрага не прыводзіць. Але катастрафічныя вынікі "рубінаўскай" рэформы могуць быць пераадолены цяпер толькі напраўду радыкальнымі захадамі: перадачай вялікай колькасці правоў і функцый сённяшніх адукацыйных чыноўнікаў адроджанаму мясцоваму самакіраванню, стварэннем інстытута грамадскай экспертызы любых значных адукацыйных праектаў, далучэннем Беларусі да агульнаеўрапейскай адукацыйнай прасторы, поўным вызваленнем педагога ад выканання "непедагагічных" абавязкаў, дзяржаўным стымуляваннем развіцця сеткі беларускамоўных адукацыйных устаноў усіх узроўняў, вяртаннем заканадаўчай гарантыі ўзроўню дзяржаўнага фінансавання сістэмы адукацыі ў памеры не менш за 10% ад аб'ёму ўнутранага валавога прадукту краіны (гэтая норма заставалася, дарэчы, яшчэ ў версіі Закона аб адукацыі, прынятай "палатамі" ў 2002 годзе). Не зрабіўшы ўсяго гэтага, краіна непазбежна будзе загразаць у балоце тэхналагічнага і інтэлектуальнага адставання не толькі ад усіх сваіх суседзяў.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**сябра грамадскай ініцыятывы**
**"Рада беларускай інтэлігенцыі".**

### ДАСЬЕ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

Лявон Баршчэўскі нарадзіўся 4 сакавіка 1958 года ў Полацку. Скончыў там сярэднюю школу №10 і паступіў у Мінскі педагагічны інстытут замежных моў на спецыяльнасць "нямецкая і англійская мовы". Скончыў ВНУ ў 1980-м. З 1981 года працаваў выкладчыкам кафедры замежных моў Наваполацкага політэхнічнага інстытута. У 1987 годзе скончыў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце замежных моў. Пасля абароны дысертацыі з'яўляецца кандыдатам філалагічных навук. У 1990 годзе быў абраны народным дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. З 1991 года працуе выкладчыкам і намеснікам дырэктара ліцэя.

З 1989 года з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў СССР. Лявон Баршчэўскі выступае ў друку з 1973 года. Працуе ў галіне мастацкага перакладу з нямецкай, польскай, чэшскай, нідэрландскай моў на беларускую. Пераклаў кнігу Б.Брэхта "На шалях праўды" (1988 г.), п'есу С.Мрожака "Танга" (пастаўлена ў 1989 г.), паасобныя творы Я.Врхліцкага, Ф.Кафкі, Г.Ахтэрберга, В.Тэўса, А.Шміт-Заса, А.Кухгофа і іншых. Выступае з артыкуламі па праблемах мастацкага перакладу.

ЁСЦЬ ІДЭЯ!

*Напярэдадні Новага года чыноўнікі самага рознага ўзроўню выказвалі ідэі наконт таго, як жа палепшыць жыццё ў краіне. Часам гэтыя ідэі вельмі дзіўныя.*

## Да ўрача — праз касу?

Ідэя, якую некалі выказаў намеснік старшыні ўрада па сацыяльных пытаннях **Анатоль Тозік**, знайшла прыхільнікаў. Следам за ім ужо рэгіянальныя чыноўнікі прапануюць зрабіць візіты ў паліклініку платнымі.

"Трэба ўводзіць плату. Пяць тысяч за наведванне паліклінікі адназначна. І чэргаў у паліклініках не будзе", — такую прапанову зрабіў старшыня Баранавіцкага гарвыканкама **Віктар Дзічкоўскі** пры абмеркаванні праекта бюджэту горада на 2013 год. "У нас у горадзе больш за два мільёны наведванняў паліклінік. Уяўляеце?! Два мільёны — гэта што такое? — адзначыў старшыня гарвыканкама. — Трэба ўводзіць пяць тысяч за наведванне паліклінікі адназначна. І чэргаў не будзе, і нагрузка на ўрачоў знізіцца, і ўвагі пацыентам будзе больш. Можна зрабіць дзесяць наведванняў платнымі, а адзінаццатае — бясплатна!"

Акрамя платнага ўваходу ў паліклініку было прапанавана зрабіць платным і знаходжанне гараджан у бальніцы. "За бялізну, за харчаванне, — пералічваў Віктар Дзічкоўскі. — Паставіць 20 тысяч за дзень. А то абураюцца бясплатным харчаваннем аж да пракуратуры: маўляў, дрэнна кормяць, крадуць. Я быў у бальніцы — нармальнае дыетычнае харчаванне. Суп даюць. І другія стравы ядомыя..."

Па словах Віктара Дзічкоўскага, такія новаўвядзенні даўно наспелі. "Павінны ж быць інавацыі, — падкрэсліў старшыня гарвыканкама. — Нас, вядома, могуць папракаць: маўляў, усё жыццё працавалі, а вы нам ствараеце такія неверагодныя ўмовы. Усё новае заўсёды крытыкуецца. Не трэба гэтага баяцца".

## Міністр будаўніцтва прапанаваў знізіць паверхавасць жылых дамоў і паменшыць таўшчыню сцен

Тэхналогіі ўзвядзення жылых дамоў варта перагледзець у Беларусі. Такое меркаванне выказаў міністр архітэктуры і будаўніцтва **Анатоль Нічкасаў** у інтэрв'ю часопісу "Эканоміка Беларусі".

У прыватнасці, на яго думку, трэба адмовіцца ад вытворчасці будаўнічай прадукцыі непасрэдна на пляцоўках аб'ектаў і максімальна — ад прымянення цяжкавагавай тэхнікі. "Для гэтага ў першую чаргу неабходна знізіць паверхавасць жылых дамоў, як гэта зрабілі ўсе еўрапейскія краіны і да чаго пераходзяць Расія і дзяржавы СНД", — лічыць міністр. Зніжэнне паверхавасці, на яго думку, дазволіць зрабіць жыллё больш танным за кошт памяншэння матэрыялаёмістасці, бо адпадзе неабходнасць падрыхтоўкі вялікіх катлаванаў і глыбокіх падмуркаў, а таксама прымянення цяжкай спецыяльнай тэхнікі.

Акрамя таго, на думку міністра, трэба знізіць і вагу аб'ектаў, што будуюцца, як мінімум на чвэрць і паменшыць таўшчыню сцен.

РЭГІЁН

## Віцебск зарабіў на турыстах 3 мільёны долараў!

*Па выніках 2012 года ўязны турызм перавысіў выязны. На прыёме гасцей турыстычныя фірмы горада зарабілі больш за 3 мільёны долараў.*

Мінулы год быў даволі паспяховым для абласнога цэнтра. Варта толькі адзначыць, што колькасць насельніцтва горада ўзрасла. Няхай і ўсяго на 3 тысячы чалавек, але гэта сведчыць аб тым, што горад стаў прывабным месцам для пастаяннага пражывання. Зараз у Віцебску пражывае 367 тысяч чалавек.

І гэта не мяжа, лічыць гарадское начальства. Старшыня гарвыканкама **Віктар Мікалайкін** лічыць галоўнай мэтай паляпшэнне якасці жыцця жыхароў абласнога цэнтра. Маўляў, і заробак падвысіцца ў 2013 годзе да 700—800 долараў.

Пакуль жа жыхары Віцебска могуць зарабляць на турыстах. Іх, па апошніх даных, стала куды больш. І прыязджаюць цікаўныя не толькі на "Славянскі базар". Таму вельмі важна, па меркаванні жыхароў і чыноўнікаў, укладваць грошы ў рэканструкцыю горада і развіццё яго інфраструктуры.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

# Шампанскае — хіба не радасць для душы?

*Такога ў краіне яшчэ не было! У 2012 годзе ўпершыню быў праведзены "народны ІРО" — продаж акцый паспяховага прадпрыемства звычайным людзям. Кожны з нас атрымаў магчымасць стаць інвестарам, і амаль тысяча нашых землякоў такой магчымасцю скарысталіся.*

*Непасрэднае дачыненне да гэтай акцыі меў **Валянцін Лопан**, піяр-кансультант ААТ "Мінскі завод ігрыстых він", кіраўнік "Агенцтва дзелавых сувязяў".*

**— Чаму Мінскі завод шампанскіх він з 11 красавіка 2001 года называецца Мінскім заводам ігрыстых він?**

— Ды ўсё проста: тэрмін "шампанскае" папросту не мог — без штрафных санкцый — фігурыраваць на знешніх рынках. Справа ў тым, што Парыжская канвенцыя па ахове прамысловай уласнасці, прынятая яшчэ ў 1883 годзе, распаўсюдзіла сваё дзеянне і на Беларусь. У адным з артыкулаў гэтай канвенцыі шампанскае прадстаўлена менавіта так: "Ігрыстае віно, якое прыгатавана ў правінцыі Шампань метадам другаснага браджэння з гатункаў вінаграду, які вырашчаны ў Шампані". Карацей, перад намі быў пастаўлены шлагбаўм. Толькі за выкарыстанне слова "шампанскае" ў назве завода ці там у рэкламным буклеце альбо на ўпакоўцы можна было атрымаць велізарны штраф. Таму і вырашылі ўсё памяняць, пачынаючы ад назвы прадпрыемства. Але не варта думаць, што з-за такой "ракіровачкі" наша "Савецкае шампанскае" перастала быць прывабным. На самых прэстыжных міжнародных конкурсах мінскія віны па-ранейшаму атрымліваюць медалі і дыпломы. Дарэчы, у лютым споўніцца 35 гадоў з дня выпуску ў Беларусі першай партыі "Савецкага шампанскага"...



**— Валянцін Анатольевіч, чым парадуюць у 2013 годзе суайчыннікаў вінаробы?**

— А ўсё ж на слыху — "Троіцкае ігрыстае", "Князь Вітаўт", "Крыштальнае", "Німфа". І зусім навенькае — ігрыстае "Радзівіл". Само сабою — "Савецкае шампанскае", якое разліта з адпаведных вінаматэрыялаў. Тых самых, што прыгатаваны з гатункаў вінаграду, які сабраны ў розных краінах, але не саступае гатункам правінцыі Шампань.

**— Якім вінам аддаяце перавагу асабіста вы, спадар Валянцін?**

— Мне падабаюцца сухія і паўсухія віны, але перавагу аддаю маркам брут. Толькі які ж гэта Новы год ды без "Савецкага шампанскага"?!. Канечне, святочны стол упрыгожыць зялёная бутэлька знакамітага шампанскага.

**— Ці праўда, што "Мінскі завод ігрыстых він" з поспехам прадаў акцыі прадпрыемства? І нібыта купляць тыя акцыі мог любы жадаючы... Наколькі ўсё праўдападобна?**

— Так і ёсць. Летась упершыню ў Беларусі мы правялі так званую ІРО — першапачатковую публічную прапанову акцый. І ўсё прайшло ўдала — было прададзена 64 тысячы акцый, прычым як фізічным асобам, так і юрыдычным. Думаю, тыя, хто купіў акцыі, не прагадалі. Па-першае, прадпрыемства высокарэнтабельнае, прыбытковае. Толькі за апошні год чысты прыбытак у два разы пераўзыдзе мінулагодні паказчык. Значыцца, і дывідэнды акцыянеры атрымаюць — недзе вясною — адпаведныя. Ну, а тыя, хто не паспеў набыць папяровыя акцыі, таксама не ў накладзе: адкаркаваныя пры пэўнай нагодзе бутэлькі шампанскага, іншых гатункаў ігрыстых він — хіба не радасць для душы?!

**Георгій ЧЫГІР.**

# Дарагая цана Андрэя Клімава

***Сапраўдным рэкардсменам па колькасці крымінальных спраў з'яўляецца былы паспяховы бізнесмен і дэпутат Андрэй Клімаў. Барані Божа ад такіх "рэкордаў", але што было, то было... На пытанні "Народнай Волі" адказвае Андрэй Клімаў.***

— У апошнія дзесяцігоддзі для мяне самай галоўнай падзеяй быў развал Савецкага Саюза. Я дагэтуль нават не магу да канца ўсвядоміць, як гэта адбылося, бо па сутнасці я быў вельмі "савецкім" чалавекам.

А вось самай яскравай падзеяй, нягледзячы на тыя выпрабаванні, якія выпалі на маю долю, стала маё дэпутацтва. Само існаванне Вярхоўнага Савета 13-га склікання, тое, што ён змагаўся за Канстытуцыю, за дэмакратыю, сведчыць аб тым, што мы ўсё ж цывілізаваная краіна. Я ўпэўнены, што мы вернемся да таго, што будзе адноўлена вяршэнства закона.

**— Вы былі адным з першых паспяховых бізнесменаў, а потым трапілі за краты. Ці не стала гэта самым моцным уражаннем для вас асабіста?**

— Мяне арыштавалі 11 лютага 1998 года. Насамрэч турма мяне тады не спалохала, бо я быў актыўным дэпутатам і адчуваў падтрымку электарату. Мяне больш уразілі паводзіны тагачаснага начальніка Валадаркі Алега Алкаева, які загадаў сваім падначаленым збіць мяне за тое, што я адмаўляўся ехаць на суд. Яны так стараліся, што ў выніку на суд мяне прывезлі амаль у беспрытомным стане. Але і гэта было не самае страшнае, бо потым пачаліся здзекі з маёй сям'і. Арганізаваў іх кіраўнік следства, які, дарэчы, дагэтуль працуе ў органах. Гэта ён загадаў выкінуць з кватэры на мароз маю жонку з двума маленькімі дзецьмі. Потым была мая другая "адсідка" за арганізацыю акцыі на Дзень Волі. Спачатку — турма, затым "хімія". Але была ж і трэцяя "пасадка" — за абразу прэзідэнта. І раптоўнае вызваленне па яго загадзе...

**— Тры разы трапіць за краты за сваю грамадзянскую пазіцыю — гэта зашмат для любога палітыка нават у нашай краіне. Ці адбілася гэта на вашым светаўспрыманні?**

— Натуральна. Ёсць такая прымаўка, што трэба баяцца не ворагаў, а сяброў, бо ворагі табе ніколі не здрадзяць. Я стаўлюся да гэтага па-філасофску. Цяпер я на сваёй уласнай шкуры адчуў, што не ўсё можна купіць і прадаць. Я стаў верыць у дабро. Былі сітуацыі, калі амаль незнаёмыя людзі прыходзілі на дапамогу, нават калі для іх гэта было небяспечна. Пры гэтым тыя, у каго я верыў, што атрымаю дапамогу, ад мяне адвярнуліся. Я бачыў, як дзеля таго, каб усяго толькі застацца на сваёй пасадзе, людзі давалі загады знішчаць маю сям'ю. Турма шмат чаму мяне навучыла і моцна паўплывала на мяне. Канешне, гэта вельмі дарагая цана.



**Любоў ЛУНЁВА.**

ПОУЧИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# Пример миллионера

Один из бывших руководителей американской промышленности миллионер Ли Якокка в 82 года написал книгу "Куда подевались все лидеры?". Фактуры для нее оказалось предостаточно. Якокка стал управлять автомобильной корпорацией "Крайслер" в момент, когда та была на грани банкротства. В таких случаях американское правительство помогает беспроцентными кредитами. Но для этого нужно представить обстоятельный бизнес-план, подтверждающий, что деньги налогоплательщиков вернутся с лихвой. И такой глубоко проработанный документ был подготовлен. И "Крайслер" получил кредит в сумме 1,2 миллиарда долларов.

Но этого было мало. И что, вы думаете, делает Ли Якокка? Он урезает свою зарплату до одного доллара в год. "Потом я пошел к другим руководителям и попросил их тоже сократить свою зарплату. Лишь после этого я отправился к председателю Объединенного профсоюза работников автомобильной промышленности Дагу Фрейзеру и спросил, чем ответит мне профсоюз. И рабочие действительно откликнулись. На протяжении девятнадцати месяцев они шли на уступки, которые вылились в общей сложности в 2,5 миллиарда долларов. Так что компанию спас не столько правительственный кредит, сколько сами рабочие", —



строки из книги "Куда подевались все лидеры?".

Уместно привести еще один любопытный отрывок из мемуаров Ли Якокка:

"Когда я был маленьким, священники заставляли нас наизусть учить семь смертных грехов. Это такие грехи, которые губят бессмертную душу. Вещь серьезная. В числе первых в этом списке была алчность. Я тогда не понимал толком, почему этот грех называется смертным, но до меня это быстро дошло, когда я занялся бизнесом. Жадность постоянно присуща деловым людям, особенно если они связаны с финансами. Но всегда ли она была так ярко выражена, как в наши дни? Не думаю. Сегодня она стала главным лозунгом корпоративной Америки. Если вы попросите кого-нибудь вспомнить одного из выдающихся лидеров бизнеса, то он в первую очередь назовет какого-нибудь проходимца, которого только что увели в наручниках.

Жадность человеческая сильна, но не будем забывать и о зависти. Это, кстати, тоже смертный грех. Порой я думаю, что первопричиной жадности является все-таки зависть. Один руководитель компании смотрит на другого и думает: "Он получает 50 миллионов, а я только 30. Но мы же работаем в одной отрасли, а я к тому же и лучше его. Надо, чтобы у меня было 60 миллионов". Вот так и раскручивается спираль заработков крупных руководителей. И никому из них в голову не придет, что 30 миллионов — это тоже неплохо. Зависть порождает жадность".

# Не было ни гроша, да вдруг алтын

Эта история шестилетней давности. Но она мне знакома не понаслышке.

В одном из общежитий Молодечно проживала семья: мать с двумя сыновьями 14 и 16 лет и 10-летней дочкой. Представьте себе — в одной комнате. Воспитывала ребят одна мать, не имеющая, кстати, постоянного места работы.

Одежка — чем добрые люди одарят. В тесноте и обиде.

Но как-то заглянуло солнце и в оконце бедолаг. Принесла мать небольшую сумму денег от случайного заработка. После обильного ужина старший сын и говорит:

— Давайте купим хотя бы дешевенький телевизор. Не все же нам звезды на небе считать да в окно пялиться.

Идею вся семья дружно поддержала, еще раз подтвердив истину, что не хлебом единым жив человек.

Присмотрели в комиссионном магазине по более чем сходной цене видавший виды аппарат. Принесли телеящик домой. Включили. Не работает.

В магазине работал, а дома экран даже не засветился. Крутили ручки, вертели антенну во все стороны. Результат нулевой.

Младший сын уже готов был достать с полки молоток. Старший брат, более опытный и поднаторевший в решении технических задач, взял в руки отвертку.

Когда задняя стенка телевизора была снята, новоиспеченные мастера обнаружили приличных размеров скруток. Сдули многолетнюю пыль, развязали узлы старой косынки...

Есть же Бог на свете! Таких денег семья сроду в руках не держала и в глаза не видела. Четыре тысячи долларов США!

Сотенные, бумажка к бумажке. Портреты к портрету американских президентов. Хоть фотовыставку открывай.

Три дня и три ночи всей общагой отмечали удачную покупку телевизора. Обновили семейный гардероб. Появился в комнате компьютер, холодильник, новые занавески, половик...

Можно бы порадоваться по поводу удачной покупки горемычной семьи, пожелать рационального использования неожиданно свалившегося богатства. Да не изведаны, не разгаданы тайны души человеческой. На оставшиеся деньги семья скупила еще полдесятка старых телевизоров в комиссионных магазинах города. Но кульков с долларами или хотя бы с рублями ни в одном из ящиков больше не обнаружилось.

Не читала эта семья книгу американского миллионера Ли Якокка.

# 12 правил академика Федора Углова

Знаменитому, можно сказать, легендарному хирургу Федору Григорьевичу Углову минувшей осенью, кажется, исполнилось бы 105 лет. А ушел из жизни он совсем недавно. До последних дней работал на кафедре госпитальной хирургии Санкт-Петербургского государственного медицинского университета имени Павлова.



Еще в 1994 году Ф.Г.Углов был внесен в Книгу рекордов Гиннесса как старейший практикующий хирург. Им выполнено более 10 тысяч операций, в том числе на легких, сердце и пищеводе, многие из которых сделаны впервые в истории советской и мировой медицины. Именно он изобрел искусственный клапан сердца.

В столетнем возрасте Ф.Г.Углов держал в руках скальпель, проводил сложные операции, ни в чем не уступая молодым коллегам.

"Я никогда никому не завидовал, не сплетничал, не злословил, — говорил академик и добавлял:

— Врач послан больному от Бога и должен лечить его с Божьей помощью".

О себе Федор Григорьевич рассказывал: "Я поставил себе цель и всю жизнь к ней стремился. Работаю постоянно. Ложусь спать в половине двенадцатого ночи, встаю в половине восьмого. Днем никогда не сплю. От обеденного стола сразу же перехожу к рабочему. Веду здоровый образ жизни. Не пью и не курю. Если живу на даче, обливаюсь холодной водой прямо на снегу. Двадцать лет таких процедур — и я напрочь забыл дорогу в аптеку. Люблю гулять пешком по лесу — общение с природой помогает восстанавливать силы".

Почти в 60 лет Ф.Г.Углов второй раз женился на женщине, которая была на 32 года моложе его. В 66 лет у него родился сын Григорий.

Федор Григорьевич из всех своих рекомендаций вывел 12 правил, которые назвал "Памятка долгожителю". Вот они.

1. Люби Родину. И защищай ее. Безродные долго не живут.
2. Люби работу. И физическую тоже.
3. Умей владеть собой. Не падай духом ни при каких обстоятельствах.
4. Никогда не пей и не кури, иначе бесполезны будут все остальные рекомендации.
5. Люби свою семью. Умей отвечать за нее.
6. Сохрани свой нормальный вес, чего бы тебе это ни стоило. Не переедай!
7. Будь осторожен на дороге. Сегодня это одно из самых опасных для жизни мест.
8. Не бойся вовремя пойти к врачу.
9. Избавь своих детей от разрушающей здоровье музыки.
10. Режим труда и отдыха заложен в самой основе работы тела. Люби свое тело, щади его.
11. Индивидуальное бессмертие недостижимо, но продолжительность твоей жизни во многом зависит от тебя самого.
12. Делай добро. Зло, к сожалению, само получится.

Свои глубокие мысли, ценные и полезные советы доктор от Бога Федор Григорьевич Углов изложил в книгах "Сердце хирурга", "Живем ли мы свой век?", "Человек среди людей", "В плену иллюзий", "Самоубийцы", "Человеку мало века".

**Поучительные истории собрал Николай РЕЕНТ.**

ИНИЦИАТИВА

# *Сделаем их жизнь комфортнее!*

Обращаемся к читателям "Народной Воли" с просьбой поддержать инициативу благотворительного общественного объединения "БлагоДарим". Мы помогаем детям, которые смотрят на жизнь взрослыми глазами с самого раннего возраста. У этой ребятни родители или ушли в мир иной, или просто однажды их предали.

Европейские государства не первое десятилетие идут по цивилизованному пути: устраивают таких детей в полноценные семьи. Такую же позицию заняла и наша страна. За семь лет количество детских домов семейного типа увеличилось в Республике Беларусь в четыре раза. Их теперь 263. Но любой здравомыслящий человек понимает: заменить биологическому или социальному сироте казенные стены интернатов и детдомов на уют домашнего очага — это еще полдела.

**Детский дом семейного типа — это не обычная белорусская семья: здесь переплетаются до десяти детских судеб!**

И житейских проблем в ней во сто крат больше: одеть ребенка достойно, а не так, как в детдоме; создать дома личное пространство, исходя из возраста и предпочтений мальчика или девочки; накормить, обстирать, подготовить к школе — каждого (!); наконец, доверительно поговорить о сокровенном (впрочем, последнее ложится на плечи тех, для кого роль отца или мамы для чужого ребенка стала уже не столько профессией, сколько состоянием души).

**42 детских дома семейного типа расположены в Минске (из них четыре появились только в 2012 году!).**

Сделать немного комфортнее повседневную жизнь таких семей, и прежде всего детей, в наших с вами силах.

На сегодняшний день детским домам семейного типа необходимы:

— детские спортивные комплексы "Крепыш" — 9 комплектов (стоимость одной единицы — 2.800.000 руб.),

— ортопедическая обувь и стельки — 10 пар (стоимость одной единицы — 1.500.000 руб.),

— детская зимняя одежда (брюки, куртки) — 20 пар (стоимость одной пары — 1.500.000 руб.),

— велотренажер — 1 комплект (стоимость одного комплекта — 3.500.000 руб.)

**на общую сумму — 73.700.000 белорусских рублей.**

Наша философия благотворительности сводится к одному: каждый ребенок должен жить в семье, в нормальных человеческих условиях! И сирота — не исключение! Мы ищем единомышленников, чьи продуманные решения растопят лед в детском сердце, помогут ребенку поверить в себя, почувствовать свою нужность в этом мире!

Мы призываем вас поддержать нашу инициативу! Пусть и в эти дома постучится праздник, и не обязательно приуроченный к Новому году!

Обращаем ваше внимание: мы отчитаемся об использовании предоставленной вами безвозмездной помощи в оговоренные договором сроки! Информацию по любому интересующему вопросу вы можете получить по телефону в Минске (017) 253-97-70.

**С уважением —**

**А.Г.ИВАНОВ, председатель правления БОО "БлагоДарим".**

ХОЧУ ЗНАТЬ...

# *Какие враги окружают президента?*

Прочитал, что на Службу безопасности президента Беларуси в бюджете на 2013 год запланировано 121,4 миллиарда рублей. На Национальное собрание — 90,8 млрд рублей, на аппарат Совета министров — 54,4 млрд рублей, на Управление делами президента — чуть более одного триллиона рублей.

Скажите, какие враги окружают президента, если нужно выделять такие огромные средства на службу безопасности? К тому же президент является невыездным, то есть он не может выехать в страны Европейского Союза. Значит, он боится собственного народа?

**Иван КИРИЛЛОВ, минчанин.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# «Красному дому», но не народу

Я могу вспомнить десятки выступлений А.Лукашенко, когда его слова, мягко говоря, не подтверждались действительностью. На мой взгляд, неубедительными они были и тогда, когда он публично возражал тем, кто считает, что *"наш парламент молчалив, а депутаты безголосые".* Свое видение ситуации правитель пояснил так: мол, простые депутаты, *"будучи людьми корректными, далеко не всегда выносят дискуссию на публичное обозрение, в них нет фанфаронства".* И далее: многие страны могли бы *"позавидовать парламенту, где дешевый популизм почти сведен к нулю*". И, конечно, трудно представить, что эти серьезные люди станут *"кричать с трибун гвалтом, как это было когда-то у нас".*

Не могу согласиться ни с одним словом. Все это похоже на стремление выдать черное за белое, или, как говорят в народе, желание черного кобеля вымыть добела.

Ни для кого не секрет: в Лету канули те времена, когда в парламент мог попасть человек со взглядами, отличающимися от официальной точки зрения "Красного дома". Давно в Овальном зале нет людей, которые могли бы инициировать горячую дискуссию по острым проблемам. Проштамповать то, что поступает из Администрации президента, правительства, — вот их основная обязанность. И с ней они, надо сказать, справляются отлично.

Правда, здравый смысл состоит в том, что наша парламентская система так и не сумела взрастить за прошедшие годы **ни одного депутата** типа российских суперпопулярных думцев Александра Хинштейна (чьи разоблачительные статьи и расследования будоражили всю Россию), непримиримого оппозиционера Льва Пономарева, отца и сына Гудковых, Елены Дмитриевой и т.д. Чьи яркие, компетентные и эрудированные, отчаянно смелые выступления о тотальной коррупции в России мы, белорусы, постоянно слышали и слышим по российским телеканалам, чуть ли не в каждодневных репортажах с заседаний Госдумы, в передачах "Честный понедельник", "К барьеру", "Ищем выход", "Народ против", "Особое мнение", "Исторический процесс" и других.

Что же касается выражения *"кричать с трибуны гвалтом, как это было когда-то у нас"...* В смысле — в Верховном Совете Республики Беларусь. Признаюсь, с постоянным интересом и удовольствием, даже с наслаждением смотрел в свое время все телетрансляции с его заседаний. Тошнотворным "одобрямсом", холуйским пресмыкательством депутатов перед властью там и не пахло! Особенно впечатляли меня всегда сдержанные, солидные, умные, овеянные какой-то неброской и в то же время завораживающей пассионарностью выступления и речи, реплики с мест З.Пазьняка (правда, сегодня эмигрант Зенон Станиславович, надо прямо сказать, уже "Федот, да не тот", о чем — отдельный разговор), принципиальные, содержательные уточнения, замечания, возражения и добавления при обсуждении повесток дня привычно степенного, статного, аристократического вида красавца Виктора Гончара: каждое его слово было тщательно взвешенным, интеллектуально ярким и профессионально выверенным, снайперски точным в контексте повестки дня и речи самого популярного в народе тогдашнего парламентария... (Хочу здесь похвастаться: я был лично знаком с Виктором. Встретившись как-то со мной в редакции "Народной Воли", он после того, как я ему по-молодецки представился по армейской привычке, крепко пожал мне руку, похвалив за "хорошую, интересную и правильную статью в газете".) В нем в то время угадывался не только талантливый оратор и народный трибун, но и будущий государственный деятель, что называется, высокого класса и полета... Недаром его коллеги — депутаты Верховного Совета Республики Беларусь — доверили ему пост председателя Центризбиркома. Однако вскоре в результате известных трагических катаклизмов и пертурбаций в стране (в чем позорную роль "троянского коня" весьма экстравагантно сыграли известные российские высокопоставленные госдеятели и политики вкупе с нашими, скажу прямо, Шарецким, Тихиней и др.) Гончар был насильственно отстранен "королевской гвардией" от своих должностных полномочий. А затем бандитски лишен жизни (в чем я абсолютно убежден!), скорее всего казнен "по заказу" вместе с Анатолием Красовским. А "дуплетом", что называется, был отправлен таким же образом в столь продолжительную "неизвестность" и всенародный любимец генерал Юрий Захаренко... Хоть один парламент лукашенковского "призыва" поинтересовался тем, кто, каким образом, по чьему велению-хотению уничтожил этих людей, тщательно упрятав концы в воду? В порядочных демократических странах сразу же, по самому факту таинственного исчезновения этих людей, столь знаковых публичных личностей было бы проведено независимое парламентское расследование. Но, как говорится: что для немца (француза, итальянца, англичанина, американца, испанца, шведа, финна, португальца и т.д.) не в жилу, то для белорусов — в самый раз!

Как, впрочем, и по факту незабываемого обвала (девальвации) белорусской национальной валюты, по позорнейшему для страны, для нации беспрепятственного перелета шведского спортивного самолета через западную границу РБ... Почему же, едри его в корень, у нас все не так, как у добрых, порядочных людей? Да потому, что в стране нет в принципе разделения властей на законодательную, исполнительную и судебную, о чем давным-давно, что называется, чирикают все воробьи! Лукашенко в своей речи перед "друзьями-товарищами" говорит о какой-то "колоссальной исторической задаче по модернизации страны, прорыве Беларуси в элитный клуб высокоразвитых стран". Эко хватил! Как справедливо упрекал своего друга один из известнейших литературных героев: "Аркадий, не говори красиво!" Куда же нам, с нашим-то свиным рылом — да в калачный ряд? К самому фейс-контролю в этот клуб нас с таким "дресс-кодом" за версту никто не подпустит!

В новейшей истории Беларуси сложилось так, что парламент страны традиционно стал не противовесом власти, не ее неусыпным и неподкупным "народным контролером", а ее фактическим подпевалой, другом и союзником. Партнером. Таким же, как и официальные профсоюзы, что не раз подтверждал их босс г-н Козик (что является дичайшим нонсенсом!), суды и прокуратуры, "чэсные" и "солидные" газеты вкупе с удивительно серым, неинтересным, местечковым, запредельно напыщенным и гламурно-визжащим, поющим и танцующим БТ, Союзом писателей Беларуси, ЦИКом и т.д. и т.п. Почему мы, белорусы, прославившиеся на весь мир как уникальнейшая "партизанская республика" и живущие в центре демократической Европы, поджав хвосты, словно жалкие дворняги, терпим десятилетиями весь этот кошмар и беспредел, унижение на глазах всего цивилизованного мира? Чем мы хуже ливийцев и египтян, несчастных, безграмотных бедуинов, сковырнувших многолетнюю деспотию и тиранию? Или украинцев, грузин, литовцев, где оппозиция не только "прорвалась" на недавних выборах в парламент, но и взяла державную власть в свои руки?

Пока каждый из нас — тех, кому действительно дороги наши национальные, духовные ценности и приоритеты, — не ответит честно и откровенно на эти вопросы, мы и далее будем прозябать на обочине мировой цивилизации. И слушать молча расхожую сентенцию о том, что "парламент — это место для дискуссий, споров и сомнений", о чем англичане поведали миру еще в XIII (тринадцатом!) веке. А нам "впаривают" в сознание эту истину как некую *"модернизацию",* когда уже идет 2013 год!

Парламент четвертого созыва ушел с политической арены в небытие, не оставив в истории никакого более-менее заметного следа, достойной памяти, не подарив своим современникам хотя бы "минуты славы". И его "сменщик" — пятый созыв, в чем я абсолютно убежден, так же служит "Красному дому". "Красному дому", но не народу.

**Александр ОЛЬХОВОЙ, военный пенсионер.**



З УСМЕШКАЙ

## *Яўген ГУЧОК*
# *Мудрасць адпітых мазгоў*

*Абразок*

...І паўстала нарэшце лазня на беразе невялікай ручаіны, дзе мяжуюць паміж сабой ускраек лесу і канец вёскі Абыякаўкі. А ўзвялі-агоралі тую лазню агульнымі намаганнямі сталічныя прыбышы, вядома, не на сталае жыхарства. Тут яны за бесцань набылі ўжо крыху падбуцвелыя хаты ад тубыльцаў, што спачатку ў горад да дзетак сваіх перабраліся, а адтуль неяк паскорана і ў іншы, хацелася б верыць, не горшы, чым наш сённяшні, свет перасяліліся. Вось яны — тыя набытчыкі: паэт Х. з прэтэнзіяй на званне генія ўсіх часоў і народаў; гісторык У., якіх яшчэ калісьці Сервантэс параўноўваў з фальшываманетчыкамі; палітолаг-публіцыст П., шчыры прытворшчык, лапатун, які рупна пералівае з пустога ў парожняе, мысляр І., філасофія якога базіруецца на прынцыпе-пасыле "з носу — кап, а ў рот — хап".

Узвезці лазню дык узвялі, але ж трэба ўжо і падлогу класці. І паўстала перад гэтым інтэлігентным чацверыкам пытанне-дылема: габляваць дошкі ці не габляваць? Калі пагаблюеш, то потым будзе лёгка паслізнуцца і бразнуцца, а калі не, то можна і стрэмак ступакамі прыдбаць. І што ж тут рабіць? І разам, як бы ў адзін дых, успомнілі яны Апанаса Рыгоравіча, на іх агульную думку — мудраца, з якім, як толькі сюды панадзіліся, дык адразу паразумеліся і яшчэ больш паміж сабой засябравалі, ну і, вядома, да яго ўсё шчыльней прыціраліся. Вельмі ж ім прыйшлася даспадобы, пасавала душы кожнага паасобку, а яшчэ больш іх агулу адна мудрасціна-максіма, ды яшчэ з экзатычным слоўцам: "Калі ў часе не пахмелішся, дык кірдык табе будзе".

Ну і пайшлі яны да Апанаса Рыгоравіча, і прывялі яго да сваёй лазні, і расказалі яму пра свае клопаты-развагі-меркаванні, і парады прасіць пачалі: трэба ж выйсце знайсці паміж коўзкасцю-слізкасцю і стрэмкамі. Абыякаўскі мудрэц абвёў усіх сваім зацікаўленым позіркам, потым нібыта самазасяродзіўся, а пасля, глянуўшы на крываногі стол, на якім стаялі чатыры неадкаркаваныя вялізныя бутэлькі ("фауст-патроны") чарніла "У добры час!", выбухнуў-выпаліў: "Габляваць — і габляваным уніз!". Нібы пад уздзеяннем электрычнасці, чатыры рукі — па адной на кожнага інтэлектуала — адначасова ўхапіліся за горлы чатырох чарнільных бутэлек. "Ай ды Апанас Рыгоравіч! Які ты маладзец! Сядай хутчэй! Добрыя парады добрыя людзі павінны добра абмыць! За Апанаса Рыгоравіча!" — вылятала з чатырох горлаў сталічных прыбышоў. "Ну то і за вас, і за вашу лазню, светлыя вы мае галоўкі!" — адказваў прадстаўнік Абыякаўкі...

РЭЗАНАНС

# На мове беларускай нашай чытае вершы ўнучка Маша

*Дзякуй за публікацыю маіх разваг у Год кнігі "Закруціць бібліятэкі" ці круціцца самім?". Атрымаў шмат удзячных водгукаў ад бібліятэкараў, калег-пісьменнікаў. Цяпер вось прачытаў першыя вашы матэрыялы пра стан навучання на беларускай мове. Мог бы згадаць шмат цікавых эпізодаў з уласных назіранняў у працяг маіх празаічных нататак "Замова за мову", якія "Народная Воля" публікавала ў свой час. Ды пакуль не дайшлі рукі. Але маўчаць не магу і таму прапаную некалькі вершаў на моўную тэму, напісаных у розныя гады. Паэтычнае слова нярэдка праймае больш, чым проза ці публіцыстыка (гэта я не пра сябе, а пра паэзію ўвогуле)...*

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

*З ЦЫКЛА «ЗАМОВА ЗА МОВУ»*

## Наказ з XIX стагоддзя

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

Не адцурацца роднай мовы —
адтуль, здалёк, аж праз стагоддзе,
наказ паэта ў час наш новы
да нас, прапраўнукаў, прыходзіць.

Не адцурацца, каб не ўмерці.
Усім наказ — Францішка словы.
А мы калі й баімся смерці,
то ўласнай, а не смерці мовы.

Не адцурацца.
А ці чуем,
бо нам чужое лепей, мусіць?..
А мова днюе і начуе,
як падчарка,
на Беларусі.

***

Каб радзінным словам наталіцца
не на дзень які, а на гады,
еду да матулі са сталіцы
у сваю Патапаўку —
туды,
дзе яно пакуль яшчэ не знікла,
хоць крыху й ахрыпла,
ды жыве;
дзе яму ў гамонцы,
звеку звыклай,
вольна так,
бы коніку ў траве;
дзе яно і ўзімку не залее,
хоць і дзьмуць з усіх бакоў вятры...
Ды і я ў завеі не калею,
што сагрэты словам тым знутры.

***

Мяне хрысціла мова матчына,
калі я ў шлях няблізкі выпраўляўся,
і як жыццё б ні перайначвала,
не здрадзіў ёй,
не адцураўся...

## Беларуская мова

У чым, скажы, ты вінавата
і вінавата перад кім,
што так пакутвала ад катаў
ва ўсе эпохі і вякі?

З Айчыны у Сібір ссылалі,
у школе ставілі у кут,
нібы дзяўчынку, гвалтавалі...
Ты столькі зведала пакут!

Напоўніцу стрывала ўсё ты,
хаця лягчэй не стала жыць,
бо шмат і сёння прайдзісветаў,
што прагнуць мову задушыць.

***

Надыдзе час —
і наша мова
узніме голас свой высока,
каб загучаць радзінным словам,
якое побач, недалёка.

Пачуць яго б нам толькі сэрцам,
бо сэрцы ў нас пакуль глухія.
А слова ўжо ў народ імкнецца,
бо толькі там яго стыхія.

А слова ўжо шчымлівай песняй
нам душы насцеж расхінае.
Яму ў падручніках зацесна,
бо тое й слова,
што крыляе!

***

На мове беларускай нашай
чытае вершы ўнучка Маша.
Чытае нараспеў, працяжна,
нібы на смак спрабуе слова.
І паміраць мне ўжо не страшна,
бо не памрэ са мною мова.

## Пра аўтара



*Анатоль Мікалаевіч Зэкаў — вядомы беларускі парадыст, тонкі лірык, вясёлы апавядальнік. Часта ладзіць літаратурныя сустрэчы з чытачамі.*

*Нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці.*

*У 1977 годзе скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яшчэ будучы студэнтам 5-га курса пачаў працаваць у рэдакцыі гомельскай раённай газеты "Маяк", потым — у Гомельскім райкаме камсамола: загадчыкам арганізацыйнага аддзела, другім сакратаром. З 1980-га да 1982 года — слухач Вышэйшай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ (г.Масква). Па накіраванні ў Мінск працаваў інструктарам аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ЛКСМ Беларусі. У 1991 годзе завочна скончыў Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання Кампартыі Беларусі. Палітолаг.*

*З 1985 года — у рэдакцыі маладзёжнай газеты "Чырвоная змена": загадчык аддзела, адказны сакратар, намеснік галоўнага рэдактара. Затым узначальваў мінскую гарадскую газету "Добры вечар"(1990—1996) і штотыднёвік "Сталіца", працаваў у газеце "Книга и мы"(1996—1997), быў галоўным рэдактарам "Беларускай лясной газеты"(1997—2002), намеснікам і в.а. галоўнага рэдактара часопіса "Вожык"(2002—2005), рэдактарам аддзела прозы — членам рэдкалегіі часопіса "Полымя"(2006—2009).*

*Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1994 года.*

*Першы верш апублікаваў у газеце "Піянер Беларусі" ў 1969 годзе. Працуе ў розных літаратурных жанрах. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі (2009).*

*Вершы Анатоля Зэкава перакладаліся на рускую, таджыкскую і чувашскую мовы. На асобныя з іх напісаны песні.*

